


Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

10 кастрычніка 2014 года №41 (1015)



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Пракансультуюць мам

**МАЛАДЗЕЧНА.** У бібліятэцы "Верасок" 13 кастрычніка, у панядзелак, пройдзе акцыя да Дня маці. Пачатак а 16 гадзіне, будзе доўжыцца да 18 гадзін. На ёй можна будзе атрымаць бясплатную кансультацыю псіхолага і юрыста па пытаннях сацыяльнай абароны. Тэлефоны для даведак: **8 (0176) 76-06-56, 76-03-43**. Аб гэтым расказала **Таццяна Закрэўская**, загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай бібліятэкі.

### Паўночны вектар Гродзеншчыны – у Смаргоні

**СМАРГОНЬ.** 24 кастрычніка ў Смаргоні адбудзецца пятая рэгіянальная выстава-кірмаш. У ёй бяруць удзел Ашмянскі, Смаргонскі, Астравецкі раёны. Мерапрыемствы праводзяцца для ўмацавання інвестыцыйна-эканамічнага ўзаемадзеяння, развіцця экспартнага патэнцыялу, знешнегандлёвага супрацоўніцтва паміж рэгіёнамі і краінамі.

**Аддзел інфармацыі.**



# За сваё цярпенне маці атрымае ўзнагароду

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні ўсе мамы рыхтуюцца атрымліваць віншаванні і падарункі. Але кожная жанчына ведае, што не бывае бесклапотнага мацярынства. Сваімі сакрэтамі, як пераадольваць розныя цяжкасці, падзялілася наша гераіня.**

Маладзечанка **Святлана Лобан** разам з мужам **Дзмітрыем** мае дваіх дзяцей. Малодшая дачка працуе ў аптэцы. Старэйшы сын, **Паша,** дапамагае маме па доме. Ён інвалід.

Жанчына не ўспрымае хваробу як прыгавор, але і не мае ілюзій, што яна знікне. Яна прыняла праблему і вучыць сына працаваць.

– Паша – мой памагаты, – распавядае жанчына пра сына. – Ён мне заўсёды кажа: "Мама, ты дзяўчынка, табе няможна цяжкае насіць". Ён вясёлы, вельмі добры. Мы навучылі яго працаваць. Летам займаемся на лецішчы.

Для дзіцяці ўсё пачынаецца ад мамы, у тым ліку і дапамога, упэўнена Святлана. А калі здараюцца праблемы, то заўсёды можна знайсці тых, хто зможа іх вырашыць. Па некаторых пытаннях жанчыне вельмі дапамаглі кансультацыі псіхолага:

– У некаторых сітуацыях я ж таксама не ведаю, як сябе паводзіць. А псіхолаг можа падказаць, якія варыянты рашэння могуць быць.

**Міжнародны Дзень маці святкуюць 14 кастрычніка.**

Святлана лічыць надзвычай важным, каб сем'і, у якіх ёсць дзеці з асаблівасцямі, аб'ядноўваліся, разам бавілі вольны час. Так мамы і таты адзін у аднаго вучацца.

– Калі ты сядзіш замкнёны ў сваім пакоі, пачынаеш накручваць, якія ж бедныя і нешчаслівыя, – дзеліцца Святлана. – А прыходзіш і сустракаеш людзей з такімі ж праблемамі, якія вырашаюць іх, то знаходзіш сілы і ў сабе.


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Маладзечанка Святлана Лобан са сваім сынам Пашам. Пашы цяпер 31 год, і ён галоўны памагаты ў сям'і. На руках жанчына трымае пекінэса Тоську.

### Не да канца разумела, наколькі важны сын

Жанчына прыгадвае, наколькі складана было прыняць навіну, што яе дзіця – інвалід. Кожны знаходзіць свой спосаб, каб перажыць гэта, і вельмі важная падтрымка блізкіх.

Складана было рашыцца нарадзіць яшчэ. Святлана рашылася праз восем год.

– Усім хочацца, каб іх дзеці былі, як ва ўсіх, – прызнаецца жанчына. – Але разумею, інваліднасць – не самае страшнае. Страшна, калі здаровы чалавек робіць рэчы, ад якіх брыдка. Вельмі раняць душу касыя позіркі. Але гэта маё дзіця. Я стараюся яго адаптаваць. Навучыла варыць кашу. Ён чысціць бульбу. Кепска, але чысціць. У цэлым, усё нармальна. Я нават не да канца разумела, наколькі мне важны Пашка. Неяк ён вельмі хацеў працаваць, уладкавала яго. Калі ён быў на працы, мне здавалася, што я як без рук, бо дома ён столькі дапамагае!

Напрыканцы размовы Святлана пажадала ўсім мамам цярпення. І паабяцала, што вы за яго будзеце ўзнагароджаныя.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Парады псіхолага пра тое, як выхоўваць дзяцей, чытайце на 5-й старонцы.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Яўген Сініла цалкам сплаціў шкоду

## Спынілі папярэдняе расследаванне па справе былога старшыні Вілейскага райвыканкама

**ВІЛЕЙКА. Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці ўсебакова даследавала абставіны крымінальнай справы ў дачыненні да былога старшыні Вілейскага раённага выканаўчага камітэта.**

На падставе сабраных доказаў, з улікам хадайніцтва, што паступіла ад падазраванага, а таксама прыняцця акта амністыі, папярэдняе расследаванне па справе спынілі.

Пра гэта "РГ" паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

**У ходзе следства падазраваны кампенсаваў прычыненую яго дзеяннямі шкоду ў поўным аб'ёме.**

Для правядзення дадатковай праверкі з крымінальнай справы выдзелілі матэрыялы для дачы прававой ацэнкі дзеянням кіраўнікоў асобных прадпрыемстваў Вілейскага раёна.

У Мінскі аблвыканкам накіравалі прадстаўленне з патрабаваннем аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства ў арганізацыі ўліку і кантролю працоўнага часу работнікаў райвыканкама, а таксама іншых прычын і ўмоў, якія садзейнічалі здзяйсненню супрацьпраўных дзеянняў.

Архіў "РГ".

Яўген Сініла, былы старшыня Вілейскага райвыканкама. Ён кіраваў Вілейшчынай да сакавіка 2014 года.

**Справу ўзбудзілі за выкарыстанне службовых паўнамоцтваў падчас будаўніцтва дома**

Нагадаем: у красавіку гэтага года паведамлялі, што крымінальную справу ў дачыненні да былога старшыні Вілейскага райвыканкама ўзбудзіла Генеральная пракуратура Беларусі.

Падставай паслужылі матэрыялы праверкі па факце злоўжывання службовай асобай сваімі службовымі паўнамоцтвамі ў асабістых мэтах, якія пацягнулі прычыненне істотнай шкоды дзяржаўным і грамадскім інтарэсам.

Згодна з матэрыяламі праверкі, прадстаўнік улады выкарыстаў дадзеныя па службе паўнамоцтвы для будаўніцтва дома.

Тады ўказвалася, што падазраваны даваў незаконныя ўказанні кіраўнікам мясцовых арганізацый аб перавозцы будматэрыялаў да дома, што будуецца, выкананні там будаўніча-мантажных работ.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЛІЧБА НУМАРА

**7443**

Столькі жанчын у Беларусі ўганаравалі ордэнам Маці за 17 гадоў

Ордэн даюць жанчынам, якія нарадзілі і выхавалі пяць і больш дзяцей

Аддзел дзяржаўных узнагарод Упраўлення кадравай палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

ЗДАРЭННІ

# Выратавальнікі знялі крэселка з галавы аднагадовай дзяўчынкі

**МЯДЗЕЛ.** Увечары 7 кастрычніка выратавальнікам паведамілі пра тое, што ў курортным пасёлку Нарач (Купа) маленькай дзяўчынцы патрабуецца дапамога.

Як аказалася, пакуль мама зайшла ў ванную памыць бялізну, дзіця паспела надзець на галаву пластмасавае дзіцячае крэселка. Ды так, што без дапамогі спецыялістаў зняць яго не ўдавалася.

На месца прыбылі выратавальнікі з к. п. Нарач (Купа), расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Балаш.**

**Аддзел інфармацыі.**

СВЯТЫ

# Адзначылі юбілей пасёлка Нарач

**МЯДЗЕЛ.** У нядзелю, 5 кастрычніка, адзначылі 50-годдзе курортнага пасёлка Нарач (Купа).

На свяце віншавалі людзей, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё пасёлка. Ушаноўвалі таксама ветэранаў (у тым ліку аўтара "РГ" **Міхаіла Чарняўскага**), мамгераінь, настаўнікаў-пенсіянераў.

Прэзентавалі сябе нарачанскія здраўніцы: хто з дапамогай песень, хто – прыпевак ці танцаў.

У канцэртнай праграме жыхароў пасёлка і адпачывальнікаў віншавалі мясцовыя артысты і фіналісты тэлевізійнага праекта "Акадэмія талентаў".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# З бездаражы зрабілі сквер

**МАЛАДЗЕЧНА.** Работнікі маладзечанскага прадпрыемства "Камунальнік" закончылі работы па рамонце пешаходна-транспартнай сувязі каля рынку райспажыўтаварыства. Ліст з такім паведамленнем мы атрымалі ад кіраўніцтва прадпрыемства на гэтым тыдні.

Цяпер тут новае асфальтавае пакрыццё, укладзеныя пліткай ходнікі, намаляваныя зебры, а ў некалькіх месцах стаяць сметніцы і лавачкі. Месца, праз якое год таму не хацелася ісці, камунальнікі ператварылі ў зону камфорту.

Яшчэ год таму дарога, што злучае вуліцы Касманаўтаў і Багдана Хмяльніцкага, была ў ямінах. Уздоўж яе месцяцца садкі №11 і №14, школа №8, стаяць шматпавярхоўкі. Маладзечанцы хадзілі па ёй, каб закупіцца на рынку.

Многія скардзіліся на нязручную дарогу. "РГ" напісала на гэту тэму публікацыю "На 150 метраў – 193 ямы".

**Аддзел інфармацыі.**

Фота Настассі РОЎДЫ.

Шпацыруюць па новай дарозе ўздоўж гімназіі №6 да "Космаса".

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ!

# За паркоўку на газоне могуць эвакуяваць машыну

**МАЛАДЗЕЧНА.** Жыхары дамоў 68-а і 68-б па Вялікім Гасцінцы скардзяцца на аўтаўладальнікаў, якія прыпаркоўваюць свае машыны на газоне.

Жыхары тлумачаць:

– Даходзіць да таго, што ў адказ на заўвагу можна пачуць мацюкі. Я ўжо не кажу пра тое смецце, што пакідаюць пасля сябе наведнікі рынку. Нам, гаспадарам кватэр каля рынку, проста нерэальна пад'ехаць да свайго дома.

Асаблівая гэта адчуваецца ў базарныя дні.

– Кожныя выхадныя ў горадзе працуюць эвакуатары, таму такіх кіроўцаў караюць усё больш і больш, – кажа начальнік ДАІ Маладзечанскага РАУС маёр міліцыі **Дзмітры Юркевіч**. – Калі бачыце парушальнікаў, можна тэлефанаваць па нумары 102.

У базарныя дні каля рынку да 13.00 працуе бясплатная стаянка.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

Фота Віктара АЎСЯННІКАВА.

У базарныя дні ў дварах каля рынку машыны на газонах растуць, як грыбы.

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Канцэрт арганнай музыкі плануюць правесці ў лістападзе

**АСТРАВЕЦ.** Два разы на год, восенню і вясной, у касцёле Святой Тройцы ў Гервятах праходзіць канцэрт арганнай музыкі.

Сёлета плануюць правесці яго ў лістападзе. Пакуль дакладная дата невядомая.

На канцэрце выступяць:

**Таццяна Глазунова**, салістка Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам **Міхаіла Фінберга**, лаўрэат міжнародных конкурсаў.

**Аляксандр Музыкантаў**, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, лаўрэат міжнародных конкурсаў.

**Андрэй Міхневіч**, арганіст касцёла Святой Тройцы ў Гервятах, магістр музыкалогіі, бакалаўр культуры і гісторыі музыкі, лаўрэат міжнародных конкурсаў.

Аб гэтым паведаміў Андрэй Міхневіч, арганіст касцёла Святой Тройцы.

**Галіна СІНІЦА.**

НАЗНАЧЭННІ

# Новы начальнік Следчага камітэта

**МЯДЗЕЛ**. Ад 26 верасня ў Мядзельскім раённым аддзеле Следчага камітэта Беларусі новы начальнік. На гэту пасаду прызначылі падпалкоўніка юстыцыі **Аляксандра Штуру**. Ад стварэння Следчага камітэта ён працаваў намеснікам начальніка гэтага райаддзела.

Ранейшы кіраўнік – **Аляксандр Зямніцкі** – узначаліў Дзяржынскі райаддзел Следчага камітэта.

**Аддзел інфармацыі.**

# Для чаго абразаюць дрэвы ў горадзе







Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

● ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Як абразаюць дрэвы ў горадзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Так лічаць адразу дзве нашы чытачкі, што звярнуліся да нас у рэдакцыю занепакоеныя тым, як па-варварску косяць траву ля дрэў і абразаюць у іх крону.**

Чытачка **Лія Міхайлаўна** заўважыла, што ў гарадскім парку кара лістоўніцы пашкоджаная газонакасілкамі.

Менавіта на тым узроўні, на якім пакошаная трава, кара ў дрэў вельмі пасечаная, быццам яе спецыяльна падразалі.

Пашкоджаная кара – гэта прамая небяспека жыццю дрэва.

– А потым яны здзіўляюцца, што сохнуць дрэвы! – ускліквае наша чытачка.

Паспрабуем знайсці адказ на пытанне, чаму б не скошваць траву на нейкай адлегласці ад дрэў? І ці павінен нехта несці адказнасць за шкоду, якая наносіцца жывой прыродзе?

Па каментар да гэтай сітуацыі мы звярнуліся ў Маладзечанскі зеленгас.

Там нам адказалі, што траву косяць кожны год і ні адно дрэва не пашкоджваецца пры гэтым. У гарадскім парку расце каля 1000 дрэў, і гэта проста нерэальна вакол іх выкошваць ці вырываць траву ўручную. А за пашкоджаныя ці засохлыя дрэвы адказнасць ні для каго не прадугледжаная, таму што дрэвы могуць сохнуць па розных прычынах.

Як сітуацыя вырашаецца ў адной з гарадскіх гаспадарак, распавёў "Рэгіянальнай газеце" намеснік начальніка ЖРЭУ №2 **Уладзімір Сідараў**:

– На абрэзку і спілоўванне дрэў у нас выходзіць майстар. Як спецыяліст ён ацэньвае, як трэба падрэзаць дрэва, каб не нанесці яму шкоды. Тое ж датычыцца і пакосу травы. Не думаю, што касцы спецыяльна пашкоджваюць дрэвы.

### Дрэвы сохнуць таму, што старыя

Пра тое, па якой прычыне ў горадзе сохнуць дрэвы і як з гэтым змагаюцца спецыялісты зеленгаса, расказала дырэктар **Галіна Саулідзі.**

Дрэвы высыхаюць зусім не ад таго, што іх няправільна і неахайна абразаюць. Тым дрэвам, што пасаджаныя ў цэнтральнай частцы горада, ужо больш за 40 і 50 гадоў. Ядома, дрэва старэе, трухнее.

Таму абрэзка дрэў – гэта неабходнасць.

Яна робіцца ў перыяд іх спакою, да пачатку руху соку. Гэта значыць, прыкладна ад сярэдзіны лістапада да красавіка. Спецыяліст адзначыла, што прымяняюцца тры абрэзкі, кожная з якіх мае свае мэты.

Фармовачная абрэзка прызначаная для падтрымання акуратнай формы кроны. Амаладжальная – глыбокая абрэзка. Яна прымяняецца да старых дрэваў. Пасля такой апрацоўкі да восені з'яўляюцца бакавыя галіны, і расліна набывае больш прыгожы выгляд. Санітарную абрэзку робяць па меры таго, як на дрэвах з'яўляюцца сухія або зламаныя галіны.

Галіна Саулідзі заўважыла, што кожную восень маладзечанскі зеленгас высаджвае прыкладна 500 новых дрэўцаў. Гэтай восенню саджанцаў будзе каля 1000. У Маладзечне з'явяцца маладзенькія клёны, ясені, ліпы, глогі.

### Куды звяртацца, каб спілавалі дрэва

– Заяўкі на спілоўванне дрэў у жылых дварах прымаюць у ЖРЭУ па месцы жыхарства. Калі вам перашкаджае дрэва, вы можаце напісаць заяўку, і яе перададуць нам, – кажа Галіна Саулідзі.

Аднак трэба ведаць, што калі побач з вашым домам расце дрэва, якое можа ў любы час рухнуць, пра гэта таксама неабходна паведаміць у зеленгас. Спецыялісты хутка выязджаюць на аварыйнае спілоўванне дрэў.



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Ці можна абмяняць кватэру, калі яе сапсавалі камунальнікі?

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля рамонту кватэра стала непрыдатная для жыцця, лічыць наша чытачка Ганна Вышыдкевіч.**

Ці можна абмяняць гэту кватэру на раўназначную або патрабаваць новы рамонт?

Каментуе намеснік начальніка ЖРЭУ №2, да якога адносіцца дом Ганны Вышыдкевіч, **Уладзімір Сідараў**:

– У доме па вуліцы Талстога, 1 капітальны рамонт зрабілі ў 2010 годзе. Ён адпавядае усім нормам. Таму ў канкрэтным выпадку пра паўторны рамонт і перасяленне няма і гаворкі. На канец 2014 года ў гэтым жа доме запланаваны і рамонт даху.

Калі гаварыць пра магчымы абмен аварыйнага жылля, то для гэтага трэба напісаць заяўку ў бюро тэхнічнай інвентарызацыі. Спецыялісты павінны агледзець дом. І калі ён на 50% акажацца зношаным, то тады можна будзе гаварыць пра адсяленне.

**Наталля ТУР.**

| Курсы валют НБ РБ | 02.10 руб. | 09.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 600,00 | **10 630,00** |
| Еўра | 13 370,00 | **13 430,00** |
| Злоты | 3 194,26 | **3 213,13** |
| Літ | 3 865,37 | **3 894,49** |
| Расійскі рубель | 267,50 | **266,00** |
| Грыўня | 818,53 | **820,85** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13340/13450 | **13420/13600** |
| Долар ЗША | 10580/10630 | **10610/10680** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 1.10 (Цана руб.) | 8.10 (Цана руб.) |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 51700 | **51700** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | 110000 | **110000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 99900 | **95800** |
| Рыс, 0,9 кг | 13000 | **13000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6850 | **6850** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6000 | **5000** |
| Капуста, 1 кг | 3500 | **3500** |
| Морква, 1 кг | 6000 | **5000** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 34500 | **27900** |
| Апельсіны, 1 кг | 16900 | **16900** |
| Мандарыны, 1 кг | 26900 | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 9500 | **16500** |
| Агуркі, 1 кг | 17900 | **19500** |
| Перац, 1 кг | - | **14500** |
| Кавун, 1 кг | 7000 | **7000** |
| Дыня, 1 кг | 12000 | **12000** |
| Вінаград, 1 кг | 17900 | **17900** |
| Бананы, 1 кг | 12900 | **14500** |
| Яблыкі, 1 кг | 7500 | **6500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19900 | **18900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | - | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Падпалілі манекен, каб схаваць крадзеж

## Пяць злачынстваў за адну ноч

**АШМЯНЫ. Шэраг крадзяжоў і не толькі змаглі правярнуць двое маладых ашмянцаў за месяц.**

За крымінальны месяц суд прыгаварыў іх да васьмі гадоў пазбаўлення волі. А каб кампенсаваць шкоду, разам з дзяржпадаткам яны павінны выплаціць больш за 270 мільёнаў рублёў.

### Скраў грошы з незамкнёнага сейфа

5 студзеня каля трох гадзін ночы Ігар быў у гасцях, дзе разам з гаспадаром піў. Калі п'яны гаспадар выйшаў, малады чалавек скраў яго мабільны тэлефон.

Праз гадзіну Ігар разбіў акно паміж першым і другім паверхамі будынка Ашмянскага філіяла Гродзенскага спажывецкага таварыства. Ён працаваў там ахоўнікам і ведаў, што ўнутры – грошы.

Выламаў дзверы ў памяшканне касы. Адтуль з незамкнёнага сейфа з кардоннай каробкі скраў каля шасці мільёнаў рублёў.

### Скраў ноўтбук і загнаў яго

Вечарам 1 лютага Ігар піў разам са знаёмай сямейнай парай. Выпіўшы за сталом каля двух пляшак гарэлкі, гаспадары заснулі.

Тым часам Ігар скраў ноўтбук, на якім падчас застолля яны слухалі музыку. Ноўтбук коштам дзевяць мільёнаў рублёў Ігар прадаў знаёмаму за 1,7 мільёна.

### Скралі адзенне і прымяралі яго

Вечарам 10 лютага Ігар выпіў разам са знаёмым Пятром. Яны разам пайшлі на рынак па вуліцы Савецкай. Выбіўшы дзвярны шклопакет гандлёвага павільёна "Бумеранг", маладзёны скралі з яго адзенне.

Яны ўзялі рэчы на сябе: курткі, спартыўныя штаны, світары, кашулю, пальчаткі, шапку, вешалкі. Гандлярка павільёна страціла праз кражу агулам каля 5,5 мільёна рублёў.

Скраўшы рэчы, яны пайшлі на вуліцу Гальшанскую і пачалі іх прымяраць. Што не падышло, выкінулі. Тады да Пятра і пераапрануліся ў абноўкі. Ігар прапанаваў вярнуцца ў павільён і пашукаць там грошы.



Калаж Зоі ХРУЦКАЙ.

**Маладыя ашмянцы за адну ноч на п'яныя галовы абакралі некалькі гандлёвых павільёнаў. А каб ніхто не заўважыў, што яны абчысцілі адзін з іх, вырашылі падпаліць разам з таварам на 222 мільёны рублёў.**

### Падпалілі павільён, каб не заўважылі, што абакралі

Праз дзве гадзіны маладзёны вярнуліся ў павільён. Грошай там не было. Тады вырашылі схаваць сляды крадзяжу і падпаліці манекен.

Агонь знішчыў павільён разам з усімі таварамі. Агулам яны нанеслі страт гаспадыні на 222 мільёны рублёў.

Праз 20 хвілін маладыя людзі пайшлі на неахоўную стаянку. Каля мясакамбіната прыкмецілі мікрааўтобус. Праз незамкнёныя дзверы яны залезлі ў машыну "Фіят-Дуката".

Пётр свяціў мабільнікам, а Ігар спрабаваў завесці аўто, замкнуўшы правады запальвання. Але не атрымалася.

### Скралі чыпсы, піва і шакаладкі

Прыкладна праз гадзіну маладыя людзі ўчынілі яшчэ шэраг злачынстваў. Яны выламалі дзверы гандлёвага павільёна "Дэльфін" і пачалі яго абчышчаць.

Скралі піва, чыпсы, цыгарэты, шакаладныя батончыкі, цукеркі, іншае. Страты за скрадзеныя тавары – больш за шэсць мільёнаў рублёў.

Яшчэ праз гадзіну, каля 2:30 ночы, маладыя людзі абакралі яшчэ адзін гандлёвы павільён – "Макс". Залезлі ў яго праз фортку. Адтуль скралі запальнічку і грошы – больш за чатыры мільёны рублёў.

### Злавілі, калі прыйшлі да скрадзенага

Спрабавалі залезці ў павільён "Наталі", але не змаглі. Яны ўбачылі міліцэйскую машыну і разбегліся. Пасля сустрэліся, каб падзяліць скрадзенае. Калі пайшлі да схаваных скрадзеных прадуктаў, там іх заўважылі міліцыянеры.

Суд прызнаў Ігара і Пятра вінаватымі ў шэрагу злачынстваў і прыгаварыў абодвух да васьмі год выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Агулам яны павінны выплаціць шкоду з улікам дзяржпадатку звыш 270 мільёнаў рублёў.

Ігару 23 гады, нідзе не працуе. Раней не судзімы. Пятру 21 год, мае дзве судзімасці за крадзяжы.

**Аляксандр ЛЯХ, памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

ЗДАРЭННІ

## Падпалілі лазню

**ВАЛОЖЫН.** Здарэнне адбылося 4 кастрычніка. У вёсцы Вішнева згарэла лазня. Самая верагодная прычына пажару – падпал.

У суботу, 4 кастрычніка, ляснік разам з сям'ёй, папарыўшыся ў лазні Вішнеўскага лясніцтва, паехаў дадому.

Праз некаторы час на тэлефон службы выратавання 101 паступіла паведамленне, што гарыць лазня.

Пажар пашкодзіў адну сцяну будынка і ўвесь дах. Унутры памяшканне не пацярпела.

Сярод версій найбольш верагодная – падпал: на месцы здарэння быў выразны пах саляркі.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" паведаміла інспектар групы прапаганды і навучання Валожынскага РАНС **Алеся Радвіловіч.**

**Наталля ТУР.**

## Пакралі залатыя вырабы

**МЯДЗЕЛ.** Жыхарка вёскі Лотва Мядзельскага сельсавета 22 верасня заўважыла, што зніклі дзесяць залатых вырабаў. Сярод іх пярсцёнкі, ланцужкі і падвеска. Каштавалі яны больш за 14 мільёнаў рублёў.

Ляжалі вырабы ў шкатулцы ў камодзе ў далёкім пакоі дома. Апошні раз жанчына бачыла іх 1 верасня. А калі захацела зноўку дастаць, то вырабаў ужо не было.

Злодзея шукаюць. Узлому дома не было, распавёў начальнік Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Аляксандр Штура.**

Крымінальную справу па факце крадзяжу з пранікненнем у жыллё ўзбудзілі 2 кастрычніка.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Маладзечне невядомы падрапаў пяць машын

**МАЛАДЗЕЧНА.** У ноч з 27 на 28 верасня па вуліцы Янкі Купалы невядомы пашкодзіў пяць машын.

Яны стаялі ўздоўж праезнай часткі двара. На машынах невядомы зрабіў драпіны на дзвярах і крылах.

Ні на адной машыне не спрацавала сігналізацыя. Відавочцаў здарэння таксама няма.

Усяго пашкоджанне ацанілі ў 27 мільёнаў рублёў.

Узбудзілі крымінальную справу.

Пра гэта распавёў Юры Багушэвіч, старшы следчы Следчага камітэта.

Апошняе маштабнае здарэнне такога ж кшталту было 25 жніўня. Тады маладзечанскія хуліганы пашкодзілі 35 машын.

**Галіна СІНІЦА.**

## На Мядзельшчыне "Аўдзі" ўрэзалася ў дрэва

**МЯДЗЕЛ.** Апоўначы 4 кастрычніка выратавальнікам паведамілі пра дарожна-транспартнае здарэнне. Адбылося яно на першым кіламетры аўтадарогі Р-60 Купа-Занарач-Брусы. Патрабавалася дапамога пацярпеламу з аўтамабіля.

Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях дасталі з аўтамабіля "Аўдзі-А6" 24-гадовага кіроўцу. Яго з траўмамі рознай ступені цяжкасці даставілі ў цэнтральную раённую бальніцу.

Аказалася, што мужчына не справіўся з кіраваннем. "Аўдзі"з'ехала ў кювет, урэзалася ў дрэва і перакулілася.

**Паводле Мінскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У жаночым халаце нёсся на машыне без шынаў

**ВІЛЕЙКА. Так віляйчанін святкаваў навіну, што стаў татам.**

За сінім аўтамабілем пагоня ў Вілейцы пачалася ў ноч на 6 кастрычніка. Міліцыя гналася за нецвярозым кіроўцам.

На Партызанскай кіроўца наскочыў пярэднімі коламі на бардзюр.

– І з голымі коламі на адных абадах працягваў рушыць наперад, – распавядае **Андрэй Дударчык**, намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі.

Машына заіскрылася. Пад капотам загарэліся нафтапрадукты, і яна пачала палыхаць.

Кіроўца з'ехаў на тратуар і спыніўся.

Да яго падбеглі міліцыянеры, мужчыну дасталі з машыны.

Як пасля высветлілася, так ён адрэагаваў на тое, што стаў бацькам. Адразу ж сеў за руль і паехаў святкаваць.

Андрэй Дударчык зазначыў, што святкаванне яму абыдзецца ў круглую суму. У дадатак, яго пазбавяць правоў кіравання на тры гады.

**Настасся РОЎДА.**

## Бяспраўнік пагражаў інспектару ДАІ кувалдай

**АСТРАВЕЦ. 30 верасня каля вёскі Рымдзюны 43-гадовы мясцовы жыхар на "Жыгулях" не спыніўся па патрабаванні супрацоўніка ДАІ і спрабаваў уцячы.**

Калі яго ўдалося спыніць, ён стаў пагражаць інспектару кувалдай, распавёў старшы інспектар ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама **Алег Дук**.

Машына заехала на поле, забуксавала і спынілася. Кіроўца выйшаў з аўто з кувалдай і пайшоў у бок інспектара. Кінуць кувалду на зямлю яго прымусілі два стрэлы ў паветра.

Пазней высветлілася, што ў парушальніка ніколі не было правоў кіроўцы. З неабходных дакументаў ён змог прад'явіць толькі пасведчанне аб рэгістрацыі.

На мужчыну склалі шэсць пратаколаў, а на наступны дзень, 1 кастрычніка, распачалі крымінальную справу.

Раней ён ужо быў судзімы.

**Паводле TUT.BY.**

АКЦЫІ

## ДАІ праверацьфлікеры

**МАЛАДЗЕЧНА.** Супрацоўнікі Маладзечанскага ДАІ ад 6 да 19 кастрычніка праводзяць чарговую прафілактычную акцыю "Стань заўважным у цемры".

Мэта акцыі – прыцягнуць увагу пешаходаў да неабходнасці выкарыстання святлоадбівальных элементаў у цёмны час сутак, каб знізіць колькасць ДТЗ.

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ, начальнік аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС маёр міліцыі.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Моцныя мамы

## Як пераадольваць складанасці і быць добрымі бацькамі

**Быць маці – цяжкая справа, але і самая ўдзячная. А быць мамай дзіцяці з інваліднасцю і ставіць яго на ногі ў поўным сэнсе гэтага слова – непамерная праца і каласальная адказнасць, якія патрабуюць як псіхічных, так і фізічных выдаткаў.**

Даведаўшыся, што на самой справе трэба дзецям, маці можа ў поўнай меры ўсвядоміць, наколькі важная для маленькага чалавечка яе падтрымка.

З'яўленне ў сям'і дзіцяці з абмежаванымі магчымасцямі – заўсёды цяжкі псіхалагічны стрэс для ўсіх членаў сям'і.

Часта сямейныя сувязі слабеюць, а пастаянная трывога за хворае дзіця, пачуццё разгубленасці, прыгнечанасці разбураюць сям'ю, і толькі нямногія сем'і становяцца яшчэ бліжэй.

Догляд за дзіцем у сям'і часцей кладзецца на маці. Як правіла, яна губляе працу або вымушаная працаваць ночцу (звычайна – гэта надомная праца).

Клопат пра дзіця займае ўвесь час, рэзка звужаецца кола зносін. Калі лячэнне і рэабілітацыя хворага дзіцяці бесперспектыўныя, то пастаянная трывога, псіхаэмацыйнае напружанне могуць прывесці маці да раздражнення, дэпрэсіі.

Часта маці ў доглядзе дапамагаюць старэйшыя дзеці, якім таксама неабходныя і ўвага, і клопат мамы. Больш цяжкая сітуацыя, калі ў сям'і двое дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.

Любоўю мамы ў такіх сям'ях нарасхват і вельмі каштоўная.

Бацькі імкнуцца выхоўваць дзіця, каб не з'явіўся эгацэнтрызм, сацыяльны і псіхічны інфантылізм. Варта даваць яму адпаведнае навучанне, прафарыентацыю на працоўную дзейнасць. Абавязак бацькоў, а ў прыватнасці маці, – супакоіць дзіця, палегчыць яго перажыванні, стварыць у сям'і атмасферу аптымізму.

Дзіця адчувальнае да таго, як настроеная мама. Яно ўвесь час пытаецца: "Мама, ты любіш мяне?" не толькі словамі, але і невербальнымі спосабамі.

Мацярынскі адказ – вашы паводзіны. У глыбіні душы вы можаце адчуваць любоў да свайго дзіцяці, але гэтага недастаткова. Менавіта праз вашы паводзіны дзіця адчувае, што яго любяць.

Пры штодзённых зносінах з дзецьмі шчыры, пяшчотны мацярынскі погляд і далікатны дотык неабходныя, каб рэалізаваць магчымасці і таленты дзіцяці. Гэта важней за кніжныя веды аб доглядзе за дзіцем.




У першую чаргу ад мамы залежыць, як будзе адчуваць сябе дзіця.

**Памятайце!**
**Дзіцяці, якое ведае бацькоўскі клопат, увагу, радасць сумесных перажыванняў, будзе лёгка адаптавацца ў грамадстве.**

Наладзьце даверлівыя адносіны з людзьмі, якія выхоўваюць дзіця. Наладжаная камунікацыя служыць асновай эфектыўнага супрацоўніцтва. Каб палепшыць узаемадзеянне з мужам, выкарыстоўвайце тыя ж стратэгіі, што і ў зносінах з дзіцем. Удзел у лячэнні дзіцяці прынясе карысць яму, сям'і і асабіста вам.

У складаных сітуацыях дзейнічайце так, як падкажуць вам ваша матчына сэрца, інтуіцыя.

**Алёна КАМІСАРУК,**
**псіхолаг**
**Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага забеспячэння насельніцтва.**

### Рэкамендацыі мамам па выхаванні дзяцей:

1. Пазбаўцеся ад пачуцця віны і пачынайце дзейнічаць.
2. Будзьце рэалістычныя.
3. Жывіце сёння.
4. Станьце спецыялістам у вырашэнні праблем.
5. Праяўляйце гнуткасць.
6. Наладзьце зносіны:
а) выслухоўвайце, не крытыкуйце дзіця з яго пачуццямі і праблемамі;
б) перш чым даваць парады, пацікаўцеся ў дзіцяці, ці хоча ён іх выслухаць;
в) адкрыта абмяркоўвайце з дзіцем пытанні, якія выклікаюць у вас неспакой, але пры гэтым старанна выбірайце тэмы для дыскусій;
г) старайцеся своечасова абмяркоўваць і вырашаць праблемы, не дазваляючы ім назапашвацца і абвастрацца;
д) рабіце акцэнт на добрым;
е) рабіце заўвагі спакойным тонам;
ж) выказвайце больш пазітыўных, чым негатыўных каментароў;
з) пазбягайце гульні "Дваццаць пытанняў" (не варта пастаянна мучыць дзіця, распытваючы пра яго самаадчуванне).
7. Дзяліце радасць і боль.
8. Памятайце пра сябе (досыць адпачывайце, старайцеся рэгулярна харчавацца, кантактуйце з людзьмі, якія могуць аказаць вам псіхалагічную падтрымку).
9. Пазбягайце шкадавання.
10. Вырашыце, як рэагаваць на навакольных.

ЗДАРОЎЕ

# Хачу застрэліць ката́, каб выратаваць свет

## Жыццё з шызафрэніяй. Роздум псіхіятра

**МАЛАДЗЕЧНА. Паводле статыстыкі, у Маладзечне жыве каля 15 тысяч чалавек з псіхічнымі хваробамі, сярод іх каля тысячы – на шызафрэнію.**

Я доктар-псіхіятр-нарколаг. Адзін з маіх пацыентаў пра сэнс жыцця сказаў: "Жыццё – гэта не толькі жыць". Адначасова ў гэтай фразе можна знайсці схаваны сэнс і ў той жа час не бачыць яго.

### Калі кот ідзе супраць сонца, будзе бяда

Упершыню я пазнаёміўся з маім пацыентам Аляксеем, калі ён звярнуўся ў псіханеўралагічны дыспансер, каб атрымаць дазвол мець зброю.

Падчас гутаркі ён патлумачыў:

– У маім двары жыве няпросты чорны кот. Калі я бачу, як ён праходзіць праз двор па гадзіннікавай стрэлцы, то ўсё добра. Але калі ён ідзе справа налева, то ў гэты дзень здарaецца дзесьці страшная бяда, і ў навінах па тэлевізары пакажуць землятрус, цунамі ці ўраган. Злавіць ката я не магу. Вось і хачу застрэліць, каб выратаваць свет і людзей.

Аляксей хварэе на псіхічнае расстройства – шызафрэнію. Сёння я хачу распавесці пра гэту хваробу, а таксама, як з ёй можна жыць.

**10 кастрычніка – Сусветны дзень псіхічнага здароўя.**

Паводле дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, на псіхічныя расстройствы пакутуюць 12-15% дарослага насельніцтва. Мяркуецца, што ў Маладзечне з насельніцтвам 100 тысяч чалавек 12-15 тысяч жыхароў маюць душэўныя хваробы.

Лічыцца, што на шызафрэнію хварэе 1% дарослага насельніцтва. Паводле гэтай статыстыкі, у Маладзечне можа быць 1000 пацыентаў з гэтай хваробай.

Шызафрэнія – хранічнае псіхічнае захворванне. Праўда ў тым, што захварэць на яго можа практычна любы. Праявы самыя розныя: хтосьці бачыць іншапланецян, хтосьці адчувае ўнутры цела датчыкі ці чуе галасы ў галаве, хтосьці ўпэўнены, што за ім сочаць спецслужбы.

Бывае, што чалавек рэзка мяняе паводзіны, замыкаецца ў сабе, перастае падтрымліваць сувязь з блізкімі. Ва ўсіх выпадках перамены ў паводзінах відавочныя, улавіць іх логіку немагчыма. Менавіта праз непрадказальнасць іншыя баяцца хворых на шызафрэнію. У іх іншы тып мыслення, так званая "крывая логіка".

Менавіта такой логікай і кіраваўся Аляксей да сустрэчы з псіхіятрам, калі будаваў планы, як выратаваць свет.

### Да пацыента з шызафрыніяй вярнулася жонка

Дактары-спецыялісты дапамагаюць хворым знайсці лекі, які дазволяць жыць, як усе. Так і Аляксею падабралі нейралептыкі.

Цяпер ён працуе, а раз на два месяцы наведвае доктара. Часам вясной ці восенню ён крыўдуе, што чатыры гады таму я не падпісаў яму дазвол на зброю. Для мяне гэта знак спытацца, ці не забывае ён прымаць лекі. Гэта можа быць сігналам, што стан пагоршыўся.

А 1 верасня да яго вярнулася жонка. На апошнім візіце яны былі разам. Аксана, яго жонка, сказала тады:

– Жыць можна і з шызафрэніяй. Паспрабуем жыць шчасліва, хоць і з таблеткамі.

Да псіхічных расстройстваў у грамадстве доўгі час ставіліся пасабліваму. Пра іх не гаварыць з сябрамі, не расказваюць самі і не пытаюцца ў іншых. Часам такая хвароба становіцца нейкім ярлыкам.

За апошнія 10 год у грамадстве пачалі больш цярпліва ставіцца да псіхічнахворых, а самі яны больш свабодна звяртаюцца па дапамогу да спецыялістаў.

**Аляксандр БАЖКО,**
**загадчык псіханеўралагічным дыспансерам, галоўны пазаштатны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна.**

**Па кансультацыю і псіхіятрычную дапамогу можна звяртацца ў псіханеўралагічны дыспансер па адрасе: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 58. Тэлефон рэгістратуры: 8 (01771) 58-04-05.**

# Служба 104 информирует

**С понижением температуры окружающего воздуха владельцы индивидуальных жилых домов начали регулярно использовать отопительные газовые котлы и водонагреватели. Однако при этом не всегда выполняются элементарные требования правил безопасности. Каждый год на территории Республики Беларусь регистрируется большое количество случаев отравления людей угарным газом.**

При сжигании газового топлива при недостаточном поступлении воздуха (закрытая форточка, неисправная вентиляция) вследствие неполного сгорания, выделяется угарный газ, который при работе газового отопительного оборудования уходит в специально оборудованные дымовые каналы. При их неисправности продукты неполного сгорания могут попадать в помещение, где установлены газовые приборы. Вследствие чего может произойти отравление угарным газом. Угарный газ в отличие от бытового газа не имеет запаха и является сильнодействующим ядом.

Так, 31января 2014 г. произошло отравление угарным газом трех человек в Ратомке Минского района. Расследованием установлено, что собственник жилого дома произвел реконструкцию оголовков дымового и вентиляционного каналов для отвода продуктов сгорания от газового отопительного котла «Vaillant». При этом установил в непосредственной близости над оголовками дымового и вентиляционного канала общий козырек. При работе в условиях низкой температуры наружного воздуха произошло обмерзание козырька и часть продуктов сгорания по вентканалу, так как котел эксплуатировался при закрытых окнах и без подреза двери в кухню, попадала в помещение кухни, что и привело к отравлению.

Одной из основных причин неисправности дымовых каналов является засорение дымохода. Дымоходы загрязняются сажей, засыпаются мусором, иногда в них попадают птицы, разрушаются кирпичные кладки.

Напоминаем, что наличие в воздухе всего 1% угарного газа – смертельная концентрация для человека.

В продуктах сгорания содержится водяной пар, который конденсируется на холодных поверхностях дымохода. В зимний период это может привести к обмерзанию оголовков дымоходов и вентиляционных каналов, их закупорки и как следствие – проникновение угарного газа в помещение.

**Чтобы избежать несчастных случаев, напоминаем:**

- дымовые и вентиляционные каналы необходимо периодически проверять, а в зимний период регулярно осматривать оголовки указанных каналов для предотвращения их обмерзания;

- дымовые и вентиляционные каналы подлежат периодической проверке и прочистке:

**отопительного газового оборудования -** независимо от материала, из которого они изготовлены, - перед отопительным сезоном.

**проточных газовых водонагревателей** - в зависимости от материала, из которого они изготовлены: кирпичные – не реже 1 раза в 3 месяца; асбоцементные, гончарные, стальные, а также выполненные из специальных блоков жаростойкого бетона – не реже 1 раза в год.

Владельцы жилых домов и квартир, где установлено вышеуказанное газоиспользующее оборудование, **обязаны** вызывать представителя специализированной организации для проверки состояния дымовых и вентиляционных каналов. Получить акт, подтверждающий их исправность

- запрещается включать газовые отопительные котлы и водонагреватели при неисправной автоматике безопасности и при ощущении запаха газа в помещении;

- газ в смеси с воздухом – взрывопожароопасен.

- перед розжигом котла или водонагревателя обязательно проверить наличие тяги в дымоходе (вентиляционном канале);

- помещение, в котором установлены газовые приборы, должно регулярно проветриваться;

- запрещено устанавливать в помещении топочной душевые кабины, ванны, санузлы;

- запрещается оставлять без присмотра включенную газовую плиту;

- запрещается сушить вещи над пламенем газовой горелки;

- газовое оборудование всегда надо содержать в чистоте и исправном состоянии.

*Уважаемые абоненты! Не подвергайте свою жизнь опасности.*

**МПУ «Молодечномежрайгаз»**
**УНП 100008077**

ШКОЛА

# Выбіралі новага дырэктара гімназіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзень самакіравання прайшоў у гімназіі №6 у пятніцу, 3 кастрычніка.**

Вучні занялі працоўныя месцы педагогаў, даючы ім адпачынак у гонар прафесійнага свята, што адзначалі ў першую нядзелю месяца.

### Стварылі партыі, каб выбраць дырэктара

Сёлета падрыхтоўка да традыцыйнага святкавання Дня настаўніка стала яшчэ больш цікавай: каб абраць кандыдатуру дырэктара-дублёра, праводзілі выбары.

Цягам двух тыдняў старшакласнікі стварылі ўласныя гімназічныя партыі, прыдумвалі лозунгі і агітавалі выбаршчыкаў. Па ўсёй школе з'явіліся плакаты, раздаваліся лістоўкі, а на сайце школы круціліся перадвыбарныя ролікі.

Па выніках галасавання дырэктарам-дублёрам гімназіі на гэты святочны дзень стаў адзінаццацікласнік **Яраслаў Дабрынін**.

– Я ўпарта ішоў да гэтай мэты і рабіў усё магчымае, каб паказаць, што гэтая пасада вельмі важная для мяне і што я з ёй спраўлюся, – паведаміў Яраслаў. – Калі мяне абвясцілі пераможцам, быў вельмі задаволены, бо гэта мая даўняя мара.

### Новы кіраўнік выбраў намеснікаў

У адпаведнасці з даўнімі паўнамоцтвамі навaспечаны кіраўнік выбраў сабе намеснікаў. Імі сталі **Раман Зубачоў**, **Аляксандра Карповіч**, **Кірыл Луцкі** і **Руслан Вяршыцкі**.


Фота Ксеніі РАГЕЛЬ.

Гімназістка Марыя Кароль 3 кастрычніка была класным кіраўніком 3 "В" класа.

– У мяне вельмі шмат крэатыўных і карысных ідэй. Я гатовая дапамагаць будучым настаўнікам-дублёрам у іх працы, накіроўваць і каректаваць іх дзейнасць, – падзялілася сваімі планамі "завуч" **Аляксандра Карповіч**.

### Для настаўнікаў – салодкі стол

Паўсправы зроблена. Цяпер трэба было сабраць новы педагагічны калектыў з настаўнікаў-дублёраў. Зрабіць гэта не так ужо і цяжка, бо ахвотных – хоць адбаўляй. А вось пры складанні графікаў і раскладаў урокаў спатрэбілася дапамога сапраўдных педагогаў.

Тым часам лічбы на календары ўсё больш выразна паказвалі хуткасць набліжэння дня Х. Гімназістам заставалася толькі ўпрыгожыць сцены роднай гімназіі да свята і завяршыць апошнія падрыхтаванні.

І вось знамянальны дзень настаў. У актавай зале сабраліся педагогі і новая адміністрацыя. Урачысты званок абвясціў аб пачатку Дня самакіравання. Усе настаўнікі-дублёры разышліся па кабінетах, а сапраўдных педагогаў у настаўніцкай чакаў сюрпрыз – салодкі стол.

### Вырашыла, кім стаць, у дзень самакіравання

Мне пашчасціла стаць класным кіраўніком 1 "Б" класа. Праўду кажучы, адразу крыху спалохалася: як справіцца з трыццаццю маленькімі жвавымі вучнямі. Але аказалася, што ўсе яны вясёлыя і паслухмяныя. Урокі праляцелі непрыкметна як для мяне, так і для дзетак.

Калі мой "працоўны дзень" закончыўся, нават не хацелася пакідаць клас. І я вырашыла для сябе: калі не стану журналістам, то абавязкова буду настаўніцай!

У нашай гімназіі вельмі шмат традыцый, якімі мы ганарымся. Праводзіць Дзень самакіравання – адна з самых любімых у вучняў.

**Ксенія РАГЕЛЬ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

● ЭКАЛОГІЯ

# Юныя мядзяльчане назіралі за птушкамі разам з замежнікамі

**МЯДЗЕЛ. Апоўдні ў нядзелю, 5 кастрычніка, да возера Мястра набліжалася купка дзяцей. Ішлі не любавацца восеньскай прыгажосцю. Яны разам з тысячамі людзей з 40 краін Еўропы і Цэнтральнай Азіі ўдзельнічалі ў Еўрапейскіх днях назірання за птушкамі.**

Дзеці пільна ўглядаліся ў біноклі, параўноўвалі ўбачаных птушак з карцінкай на адмысловай паштоўцы. А калі якую не ведалі, то пыталіся ў старшыні Мядзельскага раённага аддзялення грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" **Алены Паршуты**.

Браты **Паша** і **Мікіта Берлякі** ўзялі з сабою нават вялізную энцыклапедыю пра птушак.

– У ёй шмат птушак апісана. І наогул, гэта адна з самых маіх любімых кніжак гэтай серыі, – тлумачыць Паша.

Прайшліся дзеці ля возера Мястра, па гарадскіх вуліцах і да ракі Дробня. Адразу ж запісвалі назіранні – пералік відаў і колькасць птушак. Інфармацыю пра назіранні потым перадалі ў цэнтральны офіс "Аховы птушак Бацькаўшчыны".



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Да назіранняў гатовыя: Паша і Мікіта Берлякі ўзброіліся не толькі біноклямі, але і энцыклапедыяй.

### Лідар па назіраннях на Мядзельшчыне – качка-крыжанка

За два дні на Мядзельшчыне, 4 і 5 кастрычніка, 84 чалавекі прынялі ўдзел у Еўрапейскіх днях назірання за птушкамі. У райцэнтры наладзілі тры экскурсіі для мядзельскіх вучняў, працавала назіральная пляцоўка, расказала Алена Паршута. Таксама некаторыя паведамлялі пра назіранні па тэлефоне і ў сацсетках. Усяго ўбачылі 21 від птушак. Найчасцей – качку-крыжанку.

У Беларусі ў Еўрапейскіх днях назірання за птушкамі удзельнічалі больш за 1700 чалавек. За два дні ім удалося ўбачыць 116 відаў птушак. А найчасцей сустракаліся грак, каўка і шпак звычайны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СЛУЖБА

## Начальнік РАУС: "У серыялах пра "операў" няма ні слова праўды"

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра самыя гучныя крымінальныя справы, пра будні службы крымінальнага вышуку і пра прафесійныя прыкметы следчых – у размове з начальнікам Маладзечанскага РАУС Валянцінам Асіповічам.**

Валянцін Пятровіч узначальвае Маладзечанскі аддзел унутраных спраў крыху больш за год. Але і за гэты час у Маладзечне здарыліся і ў хуткім часе былі раскрытыя злачынствы, якія мелі шырокі грамадскі рэзананс.

### Раскрываюць і справы 6-гадовай даўніны

Дастаткова ўспомніць толькі гісторыю з замініраваннем школ у 2013 годзе. За некалькі гадзін знайшлі зламысніка, які потым патлумачыў супрацоўнікам крымінальнага вышуку, што сваім учынкам хацеў адпомсціць свайму знаёмаму.

У пачатку 2014 года маладзечанцы былі ўзрушаныя серыяй крадзяжоў з гаражоў. У гэты ж перыяд зламыснікі ўгналі чатыры машыны і спалілі іх. Як высветлілі супрацоўнікі крымінальнага вышуку, злачынствы здзяйснялі трое маладзёнаў, двое з якіх былі да гэтага неаднаразова судзімыя, а ў трэцяга ўдзельніка банды, непаўналетняга хлопца, павінна было нарадзіцца дзіця.

Аўтамабілі – балючы мазоль для супрацоўнікаў РАУС. Зусім нядаўна ім давялося раскрываць пашкоджанне 35 машын.

Валянцін Асіповіч, успамінаючы самыя гучныя справы, узгадаў і забойства дырэктара рыбгаса "Грыцава". Тады асобы злачынцаў раскрылі праз тыдзень.

– Зусім нядаўна, прыгадвае начальнік РАУС, – раскрылі справу аб згвалтаванні, якое адбылося шэсць гадоў таму.

### Бясследна знікла машына вагой 8 тон

Вядома, у службе крымінальнага вышуку ёсць пакуль нераскрытыя справы. Пра іх Валянцін Асіповіч гаворыць неахвотна, таму што за кожнай такой справай стаяць чалавечыя лёсы.

– Але ёсць сярод нераскрытых і дзіўная справа, – узгадвае Валянцін Пятровіч, – гэта крадзеж грузавога аўтамабіля "УРАЛ". Як машына вагой больш за 8 тон наўпрост знікла з дарогі ў нявызначаным накірунку?!

Што тычыцца будняў крымінальнага вышуку, то асноўная работа супрацоўнікаў – гэта раскрыццё крадзяжоў.

Над самымі гучнымі і часта небяспечнымі для жыцця справамі крымінальнага вышуку працуюць 28 супрацоўнікаў аддзела. Больш за 15 гадоў служаць у аддзеле крымінальнага вышуку **Дзмітры Полаз** і **Ігар Абрамовіч**. Іх спецыялізацыя самая складаная. Яны працуюць над раскрыццём злачынстваў, якія былі здзейсненыя супраць асобы чалавека.

Так атрымоўваецца, што пра працу "операў" мы больш ведаем з серыялаў, якія штодзень ідуць па тэлевізары. А ці глядзяць серыялы тыя, хто з'яўляецца іх прататыпам?

– Не, паверце, у нас на рабоце сваіх серыялаў хапае. А часцей за ўсё тое, пра што паказваюць у кіно, у жыцці немагчыма.

**– Ці ёсць у вас свае традыцыі ці прафесійныя прыкметы?**

– Вядома, ёсць. Але чытачам мы пра іх не раскажам. Гэта, калі хочаце, тайна следства, – жартуе Валянцін Асіповіч.

Сваё прафесійнае свята супрацоўнікі крымінальнага вышуку адзначылі ў першую суботу кастрычніка.

**Наталля ТУР.**

● ЭКАЛОГІЯ

## Ад віляйчан чакаюць прапаноў па экалогіі

### Выказаць іх можна да 12 кастрычніка

**ВІЛЕЙКА. Ад верасня 2013 года Вілейскі раён уключаны ў праект рэалізацыі ініцыятывы "Падтрымка ўстойлівасці і ўзмацненне экалагічнага планавання ў супольнасцях Беларусі і Малдовы".**

Праца накіраваная на паляпшэнне экалагічнай дзейнасці і экалагічнай сітуацыі ў раёне.

Галоўным этапам рэалізаваных мерапрыемстваў з'яўляецца стварэнне мясцовага экалагічнага плана дзеянняў для Вілейскага раёна (МЭПД).

У ім прадстаўлены патэнцыял і разнастайныя асаблівасці і перавагі Вілейшчыны – пачынаючы ад геаграфічнага становішча і заканчваючы прыроднымі багаццямі.

А таксама інфармацыя аб стане навакольнага асяроддзя і спецыфіцы прыродаахоўнай дзейнасці ў раёне. Гэтыя звесткі адправілі пры распрацоўцы плана дзеянняў.

### Чым карысны дакумент

Ён дапаможа больш актыўна задзейнічаць прыродныя канкурэнтныя перавагі Вілейскага раёна. Перш за ўсё – выгаднае геаграфічнае становішча, унікальны экалагічны патэнцыял.

Гэта і наяўнасць самага буйнога штучнага вадаёма Беларусі – Вілейскага вадасховішча, а таксама аднаго з найбуйнейшых прытокаў Нёмана – ракі Віліі, лясістасці тэрыторыі (больш за 40% тэрыторыі займаюць лясы).

Самай галоўнай задачай з'яўляецца тое, каб развіццё раёна не наносіла шкоды навакольнаму асяроддзю, а таксама зберажэнне ўнікальнай экасістэмы Вілейшчыны і рацыянальнае выкарыстанне біярэсурсаў.

Пры падтрымцы з боку Рэгіянальнага экалагічнага цэнтра, з улікам грамадскай думкі раённыя рабочыя органы па стварэнні МЭПД падрыхтавалі канцэпцыю мэтавага развіцця экалагічнай сітуацыі на Вілейшчыне.

У выніку вызначылі ў якасці прыярытэтных наступныя напрамкі: якасць пітной вады, водаадвядзенне, кіраванне камунальнымі адходамі, стан зялёных насаджэнняў і асабліва ахоўных прыродных тэрыторый.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".** Ініцыятыва рэалізуецца ў рамках праграмы "Узмацненне мясцовага экалагічнага планавання і экалагічнай грамадзянскай супольнасці ў Рэспубліцы Беларусь і Малдовы ў 2012-2014 гг." (праграма STREAM). Кіраўніцтва праграмай забяспечвае Рэгіянальны экалагічны цэнтр для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, фінансаванне – Шведскае агенцтва міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне развіцця (Sida).

ДЫСКУСІЯ

# Жыццёвыя сцэнарыі мы бяром з казак

## Як уплываюць казачныя скульптуры ў Вілейцы на псіхіку дзяцей

**ВІЛЕЙКА. Ці сапраўды ў жыхароў невялікіх гарадоў няма пачуцця прыгожага? Ці маюць права беларускія скульптары і мастакі на самабытнасць?**

Адказы на гэтыя пытанні шукала "Рэгіянальная газета".

Большасць апытаных намі мінакоў пагадзіліся, што казачныя скульптуры, якія цягам апошніх год усталёўвае вілейская ЖКГ, упрыгожваюць горад. На іх думку, чым больш работ скульптара **Валерыя Апарыка** будзе ў горадзе, тым больш цікавай і адметнай будзе Вілейка.

**Меркаванне віляйчан: "Хачу, каб з'явілася скульптура сабакі"**

Каля скульптуры "Сава і дзяцел" радасна бегала малая дзяўчынка. Мама паспрабавала яе сфатаграфаваць на ёй. Аднак тая імкнулася пабегчы да сабачкі са скульптуры "Рэпка".

– Мне тут надта падабаецца, – з радасцю ў голасе гаварыла маленькая **Саша Мацюшонак**. – Яны прыгожыя. Але больш падабаецца сабачка. Я вельмі люблю сабак.

Дзяўчынка расказала, што яна хоча, каб у горадзе з'явілася яшчэ скульптура вялікага сабакі.

**Аляксандра Узгорак**, маладая мама, гаворыць:

– Многія маладыя мамы гуляюць у парку з дзецьмі. І тыя ахвотна ходзяць каля скульптур, залазяць на іх. Ніхто яшчэ не спужаўся! Мая дачка, як убачыла новую скульптуру "Сава і дзяцел", адразу паляцела да яе. Не адагнаць было! Да іншых скульптур ужо прывыклі, таму да новай большая ўвага.

**Ганна Вашынко** адзначыла, што ў Вілейцы мала месцаў, куды б можна было схадзіць з дзецьмі, дзе б сапраўды ім было цікава. Таму такіх скульптур павінна быць больш.

**Міхаіл Шмялёў**, госць з Расіі, адзначыў, што скульптуры вельмі арыгінальныя. І чым больш іх будзе ў Вілейцы, тым лепш. Асабліва цікава будзе дзецям.



Фота Галіны СІНІЦЫ.

Казачныя скульптуры ў Вілейцы сталі месцам для фотасесіі маленькіх віляйчан. Саша Мацюшонак каля скульптуры "Сава і дзяцел".

### Вілейскага скульптара часта крытыкуюць

У №38 ад 19 верасня "РГ" пісала пра новую працу Валерыя Апарыка "Сава і дзяцел".

Гэта ўжо восьмая работа творцы. Скульптар гаварыў пра тое, што неаднаразова ў яго адрас гучала крытыка. Аднак ён стараецца не звяртаць на гэта ўвагі. "Галоўныя мае крытыкі – дзеці," – сцвярджае ён.

### "Медзведзяняты дэфармуюць пачуццё прыгожага"

Аднак яшчэ адзін каменьчык у агарод віляйчан і вілейскага скульптара кінула карэспандэнтка адной з газет.

У сваім артыкуле яна сцвярджае: *"Дзіця з мамай прыходзіць пагуляць, напрыклад, у скверык у цэнтры Вілейкі і бачыць там медзведзянят-зомбі, якія фарбуюць работнікі жыллёва-камунальнай сферы ў непрыемна-карычневы колер, з жудаснымі чырвонымі вачамі.*

*Яно альбо пужаецца назаўсёды, альбо назаўсёды падвяргае дэфармацыі сваё пачуццё прыгожага".*

Аўтар сцвярджае, што ў вялікіх гарадах *"откровенного безобразия"* стараюцца не дапускаць аддзелы архітэктуры і горадабудаўніцтва.

Яна лічыць – толькі там можна гаварыць *"аб дызайне і якой-небудзь мастацкай канцэпцыі, распрацаванай на прафесійным узроўні".*

А ў невялікіх гарадах *"эстэтыка навакольнага асяроддзя – справа нераўнадушнай грамадскасці".*

Выпраўленне праблемы карэспандэнтка бачыць у сродках, *"якія б дапамаглі ўпрыгожыць усе гарады і вёскі мастацкай коўкай і творамі прафесійных скульптараў. Аднак часцей за ўсё іх проста няма. А прыгажосці паміж іншым хочацца".*

Адной з ілюстрацый да гэтага артыкула карэспандэнтка выбрала скульптуру Валерыя Апарыка "Рэпка".

МЕРКАВАННЕ ЭКСПЕРТА

### Усе жыццёвыя сцэнарыі мы бяром з казак

Псіхолаг **Таццяна Жданава** адзначыла:

– Гэтыя скульптуры з вядомых казак. Яны дастаткова пазітыўныя. Напрыклад, скульптура з казкі "Рэпка". Рэпку выцягваюць усе члены сям'і. Яны трымаюцца адзін за аднаго, таму скульптура вучыць узаемадапамозе.

Псіхолаг адзначае, што ўсё наша жыццё звязанае з казкамі. Многія жыццёвыя сцэнарыі – з іх.

– Сёння дзецям рэдка чытаюць казкі, – адзначае псіхолаг. – Іх даюць праслухоўваць з лічбавых носьбітаў. Але пры гэтым няма кантакту бацькоў з дзіцем.

Яго можна наладзіць пры прагулцы ў вілейскім парку. Дзіця спытае пра скульптуру. А дарослыя могуць распавесці пра яе гісторыю самі ці разам з дзіцем.

#### Любую скульптуру можна назваць агрэсіўнай

Тое, як дзіця ўспрымае скульптуру, залежыць ад таго, як пра яе распавядаюць дарослыя.

– Казка – добры прыклад паводзінаў, – падсумоўвае Таццяна Жданава.

Выказаць сваё меркаванне вы можаце на сайце rh.by.

**Галіна СІНІЦА.**

КОНКУРСЫ

# Віляйчанка перамагла ў конкурсе эсэ пра Першую сусветную

**ВІЛЕЙКА. Напрыканцы верасня падвялі вынікі конкурсу эсэ "Першая сусветная. Гарады і людзі". На яго паступіла больш за сорак творчых прац з Беларусі, Расіі і Малдовы.**

Удзельнікі конкурсу працавалі над тэмамі "Сямейная лінія" і "Жывая гісторыя".

**Пераможцамі конкурсу сталі 15 эсэ. Сярод іх і твор журналісткі, прэс-сакратара грамадскай арганізацыі "ЗОВіК" з Вілейкі Наталіі Валынец.**

Пераможцаў узнагародзяць дыпломамі. Іх запрасілі выступіць на другіх Міжнародных грамадска-навуковых чытаннях "Пераклічка стагоддзяў: Першая сусветная вайна і свет сёння", якія пройдуць у кастрычніку ў Мінску.

Конкурс праходзіў у межах міжнароднага культурна-асветніцкага праекта "Пераклічка стагоддзяў: Першая сусветная вайна і свет сёння". Пра яго мастацкую частку – пленэр і выставу карцін – "РГ" неаднойчы пісала.

### Два салдаты, дзве вайны

Наталія даслала на конкурс эсэ "Салдат, сын салдата". У ім расказвае пра свайго дзядулю **Івана Папуру**, які ваяваў у Першую сусветную вайну, і дзядзьку, сына Івана – **Мікалая Папуру**. Ён у Вялікую Айчынную знік без вестак ва Усходняй Прусіі.

Пра лёс Мікалая Папуры родныя спрабавалі дазнацца, пачынаючы з 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Аднак ніякай інфармацыі адшукаць не ўдавалася.

У Беларусі гэта прозвішча не распаўсюджана. Таму, калі ў канцы 80-х гадоў Наталія ўбачыла па тэлебачанні сюжэт пра міністра ўнутраных спраў Кабардзіна-Балкарыі з такім жа прозвішчам – Папура, то вырашыла напісаць яму ліст.

Даведалася з адказу, што такое прозвішча сустракаецца на поўдні Расіі і Украіны. Атрымліваецца, дзядуля быў выхадцам з тых краёў. У Першую сусветную трапіў у нашы мясціны. Ажаніўся і застаўся жыць у вёсцы Гарыдавічы Вілейскага раёна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АКЦЫІ

# Дзецям стварылі рэальную аварыю

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Маладзечна 7 кастрычніка на тры гадзіны заехаў аўтобус МУС Расіі.

У Беларусі такіх аўтобусаў пакуль няма, таму запрасілі расіян.

Дзецям правялі шмат конкурсаў па небяспецы на дарозе. Працавала салдацкая кавярня. Была і нечаканая сітуацыя.

– Нас пасадзілі ў аўтобус. І калі мы ўселіся, раптам сталі трэсціся крэслы, пайшоў дым, але мы паспелі выбегчы, – кажа вучань 6 класа першай школы **Марк Сяляўка**. – Мы патрапілі ў рэальную аварыйную сітуацыю. Вельмі спадабалася, але трохі страшна ад нечаканасці.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Падчас спаборніцтваў па правілах дарожнага руху ў Маладзечне.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# ФК "Маладзечна-2013" завяршыў сезон на 16 радку

**МАЛАДЗЕЧНА. Такі вынік сезона абумовіў пройгрыш у апошнім матчы камандзе "Днепр" з Рагачова.**

Апошні шанс сёлета ўбачыць каманду ў гульні была ў маладзечанцаў 5 кастрычніка. Толькі 67 чалавек скарысталі гэту магчымасць. Менавіта столькі людзей сабралася ў нядзельны дзень на стадыёне.

Апошняя гульня не прынесла задавальнення ні гульцам, ні аматарам футбола.

Праз паўгадзіны актыўных атак саперніка, у маладзечанцаў усё ж такі атрымалася вырвацца наперад намаганнямі **Алега Галаўнёва.** Аднак радаваліся падначаленыя **Дзмітрыя Ганчарова**, які быў у гэтай гульні таксама на полі, нядоўга. Ужо праз сем хвілін, атрымаўшы пенальці, лік гульні стаў нічыйным.

Пяць хвілін спатрэбілася футбалістам "Дняпра", каб зрабіць лік на сваю карысць.

Другі тайм прайшоў зноў на палове поля маладзечанцаў, але штанга варот двойчы ратавала ФК "Маладзечна-2013" ад непазбежнага фіяска.

І толькі ў канцы другога тайма, калі ішла 90-я хвіліна, рагачоўцы ўсё ж паставілі кропку ў гэтай гульні. Фінальны лік матча – 3:1.

ФК "Маладзечна-2013" скончыў сезон на 16 радку з 24.

Перад пачаткам гульні фанаты выбралі свайго фаварыта.

Лепшым футбалістам сезона па версіі аматараў стаў **Андрэй Лявончык.**

– Вядома, прыемна атрымаць такое прызнанне свайго ўнёску ў гульню каманды, – гаворыць Андрэй.

Ён падкрэсліў, што адказнасць павінна быць у кожнага гульца ў камандзе як на гульнях, так і падчас трэніровак.

На жаль, не ўсе гульцы змогуць пахваліцца сваёй дысцыплінаванасцю і адказнасцю. У апошняй гульні сезона на полі адсутнічалі вядучыя гульцы каманды. Дыскваліфікаваны за размовы з суддзёй **Андрэй Шаблінскі**. Гульні ў складзе каманды ДЮСШ аддалі перавагу **Юры Бугай і Прохар Новікаў**. Асабістым жыццём заклапочаны больш, чым гульнёй, **Павел Суман.**

– Канец сезона, – кажа Андрэй Лявончык, – асаблівая тэма. Перасталі трэніравацца, кадравыя праблемы ў камандзе прывялі да таго, што на поле вымушаныя былі выходзіць трэнер каманды Дзміты Ганчароў і варатар **Павел Мілеўскі**.

Нагадаем, што Андрэй Лявончык прыйшоў у каманду ў пачатку гэтага сезона памочнікам трэнера, а не гульцом. Праз пэўны час, набраўшы форму, Андрэй пачаў выходзіць у стартавым складзе.

– Вы кажаце, што я ўлюбёнец каманды? Гэта не так, у нашых фанатаў улюбёнцы **Сяргей Тарчыла** і Андрэй Шаблінскі.

Пасля заканчэння апошняга матча самы час запытацца ў дырэктара клуба **Аляксандра Любанца** пра выніке сезона і планы на 2015 год.

– У параўнанні з мінулым сезонам, у гэтым мы выраслі. У сезоне 2013 года мы занялі 11-е месца з 13. Сёлета ўжо 16-е, але з 24 камандаў.

Спрыялі гэтаму выніку рэгулярныя трэніроўкі. Але лепшым стымулам для гульцоў усё ж такі застаюцца грошы. Няма матывацыі – няма выніку.

Што датычыцца планаў на наступны сезон, яны ў Аляксандра Любанца аптымістычныя. Жаданне займацца камандай у яго не знікла. Але ўсе кропкі над "і" павінен паставіць старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**. Сустрэча з ім у кіраўніцтва ФК "Маладзечна-2013" прызначаная на наступны тыдзень.

Пакуль у гісторыі ФК "Маладзечна-2013" стаіць шматкроп'е. Магчыма, зноў спатрэбіцца дапамога аматараў. Нагадаем, што сёлетні лёс каманды вызначыла петыцыя, якую адправілі ў федэрацыю футбола заўзятары гульні. Магчыма, каманда будзе існаваць, а яшчэ цалкам верагодны варыянт, што інтарэсы горада на рэспубліканскіх спаборніцтвах будзе адстойваць каманда ДЮСШ.

**А што думаеце пра лёс ФК "Маладзечна-2013" вы, чытачы-аматары? Пакідайце свае каментары на сайце** Rh.by

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**У сезоне 2014 года кропка ўжо пастаўленая. За галаву хапацца позна, застаецца толькі развесці рукамі. На здымку злева Павел Мілеўскі, справа – Ілля Ануфрыеў.**

НАВІНЫ

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" прайграла "Любані"

**МАЛАДЗЕЧНА.** На другім этапе чэмпіянату вобласці "Маладзечна-ДЮСШ-4" пацярпела першае паражэнне. У гасцях 5 кастрычніка маладзечанцы мінімальна саступілі ФК "Любань" 0:1.

Аднак па-ранейшаму "Маладзечна-ДЮСШ-4" займае першае месца. На рахунку каманды 21 ачко.

Бліжэйшыя пераследнікі таксама згубілі ачкі. "Жодзіна-2007" у гэтым туры згуляла ўнічыю. У каманды цяпер 19 ачкоў. "Старыя Дарогі", якія ішлі трэцімі, свой матч прайгралі і апусціліся на чацвертае месца. А на трэцяе падняліся крыўдзіцелі маладзечанцаў – ФК "Любань" (18 ачкоў).

## "Першы Беларускі" – чэмпіён

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 5 кастрычніка, адбылася адна гульня чэмпіянату Вілейскага раёна па футболе. "Мехатроніка" прайграла "Шылавічам" 1:4 і пазбавілася шанцаў дагнаць "Першы Беларускі".

І хоць лідарам чэмпіянату – "Першаму Беларускаму" і "Мехатроніцы" – яшчэ трэба будзе згуляць паміж сабой, на размеркаванне месцаў гэта ўжо не паўплывае.

"Першы Беларускі" перамог у чэмпіянаце, "Мехатроніка" – на другім месцы. На трэцім – "Чурлёны", паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

## Трапілі ў прызёры – і сталі кандыдатамі

**ВІЛЕЙКА.** У Мінску 4 і 5 кастрычніка прайшло адкрытае першынство і Кубак Беларусі па каратэ.

Сабраліся ўсе лепшыя каманды – з абласных цэнтраў, Оршы, Пінска ды іншых гарадоў, расказаў трэнер вілейскага клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч**.

Трое віляйчан вярнуліся з турніру з узнагародамі. **Мікіта Кірыевіч** заняў другое месца сярод 14-15-гадовых хлопцаў у вагавай катэгорыі да 57 кілаграмаў. А паміж 16-17-гадовых юнакоў у вагавай катэгорыі да 76 кілаграмаў **Павел Кірыевіч** быў другі, а **Андрэй Мацко** – трэці.

Гэтыя тры віляйчаніны выканалі нарматыў кандыдата ў майстры спорту па версіі WKF.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## "Смаргонь" перамагла клуб з Гомеля і ідзе на чацвертым месцы

**СМАРГОНЬ. Пасля серыі з трох выязных матчаў футбольны клуб "Смаргонь" нарэшце гуляў дома. Смаргонцы 4 кастрычніка сустракаліся з "Гомельчыгунтрансам". "Смаргонь" перамагла з лікам 2:0.**

Першы гол у самым пачатку другога тайма забіў **Ігар Нарожнік**. На 69-й хвіліне чарговы раз вызначыўся **Мікалай Рындзюк**. Мікалай – лепшы бамбардзір "Смаргоні". На яго рахунку 14 галоў.

– Першы тайм прайшоў не так, як мы планавалі, – сказаў пасля матча галоўны трэнер "Смаргоні" **Павел Бацюта** (яго словы прыводзіць афіцыйны сайт клуба). – Каманда саперніка вельмі кампактна гуляла ў цэнтры поля, дзе ў нас практычна не было свабодных зон для развіцця атакі. У перапынку мы ўнеслі карэктывы. Задача была "разагнаць" нашы атакі на флангах, дадаць у каманднай хуткасці пры пераходзе з абароны ў атаку. У другім тайме гэта атрымалася, мы забілі два галы, маглі забіваць яшчэ.

**– Другую гульню запар, улічваючы наяўнасць траўмаваных, каманда гуляе ў трохі нязвыклым складзе. Што скажаце пра гульцоў, якія нарэшце атрымалі шанец выйсці ў аснове?**

– І **Казко**, і **Нарожнік** правялі свой гульнявы час на полі старанна, паўдзельнічалі ў першым узяцці варот. Пасля перадачы з фланга Казко, Нарожнік забіў гол.




Фота Максіма Дзмітрыева (sportkaviny.com).

**У атаку рвецца Павел Баскакаў.**

Цяпер усё залежыць ад іх. Мы ім давяраем, яны пацвярджаюць усё на полі, гэта ідзе толькі на карысць камандзе.

Наступны матч "Смаргонь" згуляе 11 кастрычніка ў гасцях супраць "Рэчыцы-2014". Каманды ў турнірнай табліцы падзяляе два месцы і два ачкі. "Смаргонь" ідзе чацвертай з 37 ачкамі, "Рэчыца-2014" – шостай (35 ачкоў).

**Аддзел інфармацыі.**

● КАНЦЭРТЫ

## Адмянілі канцэрт гурта "Без білета"

**ВІЛЕЙКА. 7 кастрычніка ў Вілейцы павінны быў адбыцца канцэрт гурта "Без білета". Аднак на яго не купілі нават дзесяці білетаў.**

Канцэрты гурта пройдуць у Ашмянах, Ваўкавыску і Маладзечне. А таксама 14 лютага ў Мінск-арэне.

"РГ" праводзіла конкурс, у якім разыгрываліся білеты. Для гэтага трэба было напісаць гісторыю, звязаную з любой песняй гурта "Без білета". Чытайце гісторыі пераможцаў конкурсу.

**Вольгу Воліну** з вельмі блізкім чалавекам звязвае песня "Танцуй". Сама яна з Маладзечна. Аднак жыццё дзяўчыны звязанае і з Вільняй. Там жыве блізкі ёй чалавек – **Арвідас**.

Першы раз, калі яна прыехала ў незнаёмы горад, хлопец павёў яе на дах 12-павярховага дома. Ён хацеў паказаць панараму горада.

Ад убачанай прыгажосці маладыя людзі замаўчалі. Тады дзяўчына пачула, як у навушніках гучыць песня "Танцуй".

– І кожны раз, – падсумоўвае Вольга, – калі я чую песню "Танцуй" – спачатку ўздрыгваю, потым ўсміхаюся і раставаюся ў той рамантыцы. І я ўпэўненая – ён таксама!

Чытачка **Марына Аляксандраўна** расказала смешную гісторыю.

Разам з сяброўкай яна пайшла на канцэрт у Мінску. Пасля яны вырашылі пайсці па аўтограф. Сцэна была вельмі вялікая і цёмная.

Марына не заўважыла, што сцэна скончылася, і звалілася. Пакуль яна вылазіла, падышоў ахоўнік, які пачаў распытваць, што яна тут робіць. Пасля ён стаў яе каханым чалавекам. Аўтограф у гурта дзяўчына так і не ўзяла.

**Галіна СІНІЦА.**

**Поўны тэкст глядзіце на сайце RH.BY.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Кошкі-Мышкі**" (казка-гульня па матывах п'есы *Аркадзя Хайта* "Дзень нараджэння ката Леапольда")
14 кастрычніка – у 12:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін
**Спектакль прысвячаецца Дню маці**
14 кастрычніка – у 19:00

"**Любоў па-італьянску**" (трагікамедыя па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), *Эдуарда дэ Філіпа*
15 кастрычніка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
16 кастрычніка – у 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" пакажа ў кастрычніку

"**Шматочкі па закуточках**" (жыццёвая гісторыя), *Р.Осцер*
12 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | | | | | | 9 |
| 5 | 7 | | | | | 6 | 4 | |
| | | 1 | | 4 | | 2 | 7 | |
| | | | | | 1 | | 2 | |
| 2 | | | 9 | | 4 | | | 6 |
| | 9 | | 7 | | | | | |
| | 2 | 5 | | 7 | | 1 | | |
| | 1 | 4 | | | | | 5 | 7 |
| 7 | | | | | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВАЛОЖЫНШЧЫНЫ



Фота Наталі ТУР.

На цэнтральнай плошчы Івянца ў выхадны дзень прадаюць капусту і цыбулю.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Крымінальны трылер "**Вялікі ўраўняльнік**" (ЗША, 2014, ад 16 год)
11 кастрычніка – у 19:30
12 і 14 кастрычніка – у 21:00
15 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі "**Пракляцце Анабэль**" (ЗША, 2014, ад 18 год)
10 кастрычніка – у 19:30
11 кастрычніка – у 17:00
13 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Выпускны**" (Расія, 2014, ад 18 год)
10 і 11 кастрычніка – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў
12 і 14 кастрычніка – у 19:00
13 кастрычніка – у 21:00
15 кастрычніка – у 21:30
16 кастрычніка – у 20:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, прыгоды "**Зіп і Зап. Клуб шкляных шарыкаў**" (Іспанія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
11 кастрычніка – у 13:00, 15:00
12 кастрычніка – у 14:30
14 і 15 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастычны трылер "**Бягучы ў лабірынце**" (ЗША, 2014, ад 16 год)
10 кастрычніка – у 17:30
12 кастрычніка – у 16:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! "**Дракула**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16 кастрычніка – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Прэм'ера! "**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Неверагоднае перамяшчэнне**" (Беларусьфільм, 2014)
10 кастрычніка – у 17:00
12 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, 2013, без узроставых абмежаванняў)
11 кастрычніка – у 16.00
12 кастрычніка – у 15.30
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Паветраны маршал**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
10 і 11 кастрычніка – у 19:00
12, 14 і 16 кастрычніка – у 21:30
15 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Бландзінка ў эфіры**" (ЗША, 2014, ад 16 год)
10, 11 і 13 кастрычніка – у 21:30
12, 14 і 16 кастрычніка – у 19:30
15 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

Сямейны фільм "**Сабачы рай**" (Расія, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
10, 11 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Трылер/жахі "**Дом у канцы вуліцы**" (ЗША, Канада, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 гадоў)
10, 11, 12 кастрычніка – у 21:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Адзінокі па кантракце**" (Украіна, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды "**Неверагоднае перасоўванне**" (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 кастрычніка – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Кухня ў Парыжы**" (Расія, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
15 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Бабнік**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 18 гадоў)
15, 16 кастрычніка – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
16 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● ГАРАСКОП
**(10-16 КАСТРЫЧНІКА)**

**Авен.** Вы пакорыце ўсіх вострым розумам, неардынарным мысленнем, пачуццём гумару.

**Цялец.** Вы будзеце думаць, што з'яўляецеся прафесіяналам ва ўсіх сферах, і будзеце раздаваць парады па любым пытанні. Але варта ведаць, што ўсе разважанні неабходна пацвярджаць практыкай.

**Блізняты.** Вы атрымаеце адчувальны штуршок сваім справам, асабліва тым, якія вы выношвалі і не рашаліся пачаць.

**Рак.** Перад вамі адкрываюцца цудоўныя перспектывы, але гэта не значыць, што вам трэба спяшацца. Наадварот, перыяд патрабуе ад вас скрупулёзнасці і ўзважанасці. А калі будзеце ўсё рабіць бягом, то можна праляцець сваю ўдачу без прыпынку. Будзьце ўважлівыя.

**Леў.** Крыніцай натхнення стане для вас любімая работа. Нават калі яна забярэ шмат сіл і часу, затое падорыць маральнае задавальненне і добрае матэрыяльнае ўзнагароджанне.

**Дзева.** У выхадныя больш часу ўдзяліце адпачынку, бо ад гэтага будзе залежаць ваша душэўная раўнавага.

**Шалі.** Не зацыклівайцеся на дробязях, вас чакаюць вялікія справы. Але поспех будзе залежаць ад вашай здольнасці цвяроза ацаніць сітуацыю. Не гарачыцеся і не панікуйце. Усё добра абдумайце.

**Скарпіён.** Правядзіце выхадныя з каханым чалавекам, каб у вас не ўзнікла прычын для рэўнасці.

**Стралец.** Апасайцеся надта заманлівых прапаноў. Проста так поспеху не дабіцца. Каб зарабіць, трэба шмат працаваць. Але і не ўзвальвайце на сябе празмерны груз адказнасці, бо гэта можа неспрыяльна адбіцца на сямейных адносінах.

**Казярог.** Нікога не слухайце, ды ўсё роўна і не пачуеце. Цяпер вы настолькі эгаістычныя, але гэта толькі да лепшага.

**Вадалей.** Цяпер вам трэба разабрацца са старымі рэчамі і пачуццямі, выкінуць хлам не толькі з дома, але і з галавы. А яшчэ вас наведае фенаменальная колькасць каштоўных думак і геніяльных ідэй. Некаторыя з іх варта запісаць – раптам спатрэбяцца.

**Рыбы.** Наступае ваш зорны час, пастарайцеся выкарыстаць яго максімальна рацыянальна.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар
**+375 (29) 67-68-420,**
на e-mail **regionnews@rh.by**
або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27

## Беларусь не будзе пераходзіць на зімовы час

Беларусь адмовілася ад пераходу на зімовы час у 2011 годзе. Гэтае рашэнне ўзгаднілі з удзельнікамі Мытнага саюза. Мэта адмовы ад пераходу на зімовы час – паляпшэнне ўмоў працы і адпачынку насельніцтва, поўнае выкарыстанне светлага часу сутак.

**Паводле БЕЛТА.**

## ● НАДВОР'Е

### 11 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +11 +20 | | +12 +18 | | +14 +19 | | +14 +17 | |
| | 742 | ↗ 7 | 743 | → 2 | 740 | ↑ 4 | 742 | → 2 |
| Вільня | +11 +20 | | +13 +17 | | +12 +18 | | +11 +16 | |
| | 750 | ↗ 5 | 753 | ↓ 2 | 749 | ↗ 4 | 751 | ↗ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.21
Захад 18.41
Даўжыня дня 11.20

Усход 16.12
Захад 1.35
Квадра 2




## ● ПРЫКМЕТЫ

- Пакровы (14 кастрычніка). "Пакровы пакрываюць траву лістам, ваду – лёдам, дзяўчат – шлюбным чэпкам". Якія Пакровы па надвор'і – такая будзе і зіма.
- На Пакровы дождж – на наступны год пчолы збяруць шмат мёду.

## Чытайце праз тыдзень:

● **На ўскрайку былой Іжанскай пушчы ў вёсцы Стрáдубава збіральнік сямейнай спадчыны вілейчанін Франц Млечка стварае музей пад адкрытым небам.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 41 (1015) 10.10.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 860. Падпісана ў друк у 10.00 9.10.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.